# Бацькаўшчына

WHITERUTHENIAN NEWSPAPER „THE FATHERLAND“ Цана 1 н. м.

№ 9 (12) 25 сакавіка 1948 г. год выданьня 2

# МАНІФЭСТ

## РАДЫ БЕЛАРУСКАЕ НАРОДНАЕ РЭСПУБЛІКІ (БНР)

БЕЛАРУСКІ НАРОДЗЕ!

Трыццаць год таму на векапомным гістарычным паседжаньні ўначы з 24 на 25 Сакавіка 1918 году Рада Беларускае Народнае Рэспублікі прыняла рэзалюцыю пра абвешчаньне Беларусі Сувэрэннай Дзяржавай, і тае-ж раніцы было аб гэтым пададзена цэламу сьвету.

Нікому тады ў сьвеце ня было нявпэўнасьці, што гэты гістарычны акт 25 Сакавіка становіць нешта іншае, як афармленьне волі Беларускага Народу, выказанай на І-ым Усебеларускім Кангрэсе ў часе ад 18—31 сьнежня 1917 году. Таму адна па адной шэсьць эўрапейскіх дзяржаваў прызнаюць сувэрэннасьць Беларускае Народнае Рэспублікі «дэ-юрэ» й бальшыня іншых дзяржаваў у сьвеце «дэ-факто». Па ўсёй Эўропе, а ў некаторых дзяржавах і Азіі ды Амэрыкі паўстаюць дыплёматычныя прадстаўніцтвы, консуляты, вайсковыя місіі, падпісваюцца гандлёвыя й нат палітычныя ўмовы з БНР.

Гэта было праўнае афармленьне волі Беларускага Народу. А вось зьмест яе:

1. Беларусь у межах расьсяленьня й лічбовай перавагі Беларускага Народу абвяшчаецца Народнай Рэспублікай.

2. Асноўныя законы Беларускае Народнае Рэспублікі зацьвердзіць Устаноўчы Сойм Беларусі, скліканы на падставе агульнага, роўнага, беспасрэдняга, тайнага й прапарцыянальнага выбарчага права, бяз розьніцы роду, нацыянальнасьці й веравызнаньня.

3. Да часу пакуль зьбярэцца Устаноўчы Сойм Беларусі, заканадаўчая ўлада Б. Н. Р. належыць Радзе Усебеларускага Зьезду — Радзе Беларускае Народнае Рэспублікі.

4. Выканаўчая й адміністрацыйная ўлада ў БНР належыць Народнаму Сакратарыяту Беларусі, які прызначаецца Радай і перад ёю адказны.

5. У межах БНР абвяшчаецца свабода слова, друку, сходаў, забастовак, саюзаў, бязумоўная свабода веравызнаньняў, недатыкальнасьць асобы й памешканьня.

(II Устаўная Грамата БНР).

Ад гэтага часу Беларуская Народная Рэспубліка абвяшчаецца незалежнай і вольнай дзяржавай.

На падставе гэтага трацяць сілу ўсе старыя зьвязі, якія далі магчымасьць чужому ўраду падпісваць і за Беларусь трактаты...

БНР павінна абняць усе землі, дзе жыве Беларускі Народ, а ласьне: Магілеўшчыну, Меншчыну, Віцебшчыну, Горадзеншчыну, Віленшчыну, Смаленшчыну й сумежныя часткі суседніх губэрняў, заселеных Беларусамі.

(III Устаўная Грамата БНР)

Вось такую праграму выпісаў Ты, Беларускі Народзе, на штандары БНР трыццаць год таму, як часовую сабе канстытуцыю...

Былі гэта ня толькі лёзунгі, дэвізы Тваё палітычнае праграмы, а Закон, што мае сілу дзеяньня й забавязвае ў выконваньні ўсіх грамадзянаў БНР да часу наступных вольных выбараў у Беларусі, да скліканьня Устаноўчага Сойму.

Вось які гэта быў зьмест твору Тваіх духова-палітычных асьпірацыяў, Беларускі народзе, трыццаць год таму.

Быў гэта для цэлага сьвету довад Тваё гуманнасьці й Тваё высокае палітычнае культуры, довад Тваё глыбокае духовае сувязі з заходня-эўрапейскай цывілізацыяй, — довад таго, што Ты, хоць і пражыў 125 год няволі ў жорсткіх лапах тыранаў, нітрошкі не заламаўся й нітрошкі не падупаў іхным барбарскім уплывам.

Цэлы сьвет пабачыў, што калі там, у Маскоўшчыне, дзе па ўпадку дэспата-цара залунаў новы кліч гвалтудыктатуры, дзе новая ўлада фармавалася прымусам, — Ты стварыў сабе ўладу законным — дэмакратычным шляхам.

Там, у Маскоўшчыне, нішчылася ўсё сьвятое, разбураліся цэрквы й пасылаліся жыўцом у неба сьвятары... Ты-ж абвесьціў свабоду сумленьня, бязумоўную свабоду веравызнаньня ў Беларусі.

Там за слова, супярэчнае ўладам, расстрэльвалі на месцы, — Ты-ж абвесьціў свабоду слова, друку.

Там зябнгалі ў вабход для згону сялянаў у супольную загарадзь калектыўнага «табуна» пад дагляд брыгадзіраў з «кнутам» — Ты-ж свабоду індывідууму забясьпечваў законам недатыкальнасьці асобы й памешканьня, а працу рабіў вольнай, агароджаваючы толькі яе ад эксплёатацыі вялікіх паноў, што сваім часам пазаймалі былі ў нас вялікія адлогі земляў. Хвабрычнага-ж работніка Ты бараніў ад вызыску васьмігадзінным днём працы.

Ці-ж ня мусіш Ты, Беларускі Народзе, ганарыцца сяньня сваімі бацькамі-дзядамі, у бальшыні памёрлымі ўжо, што Табе пакінулі такую прыгожую спадчыну — Беларускую Народную Рэспубліку, БНР, якая ад першых дзён свайго нараджэньня адразу шырака заімпанавала перадавой часткі й вышэйшым колам палітычнага сьвету?

У актах БНР ёсьць дакументы аб прыняцьці ганаровага грамадзянства Ае найвыдатнейшымі палітычнымі й грамадзкімі дзеячамі Вялікіх Дэмакратычных Дзяржаваў. Жывець яшчэ й сяньня шмат дэпутатаў заходня-эўрапейскіх парлямэнтаў (а ў тым ліку й два найвялікшыя дзяржаўныя мужы Францыі Эрыё й Даляд'е), якія сваім часам горача баранілі ў сваіх парлямэнтах пазыцыі прызнаньня БНР сувэрэннай дзяржавай «дэ-юрэ».

Адзін з найвялікшых у сьвеце палітычных аўтарытэтаў таго часу й адзін з найвялікшых вучоных Тамаш Масарык — Прэзыдэнт Чэхаславаччыны, вызвольнік свайго народу, да самае свае сьмерці падтрымваў нашых прэзыдэнтаў БНР Крачэўскага й Захарку, паўтараючы ім заўсёгды пры спатканьні свае словы й аднакасна дэвіз чэскага народу — „Pravda zvit'ezi!“ («Праўда пераможа!»).

Пад гэткім клічам і з гэткай-жа верай у перамогу праўды змагаўся цягам трыццацёх год і Ты, Беларускі Народзе!

Ты ня страціў гэтае веры ў перамогу праўды нат пасьля таго, як Зямля Твая была акупаваная чужакамі, а Твая законная ўлада была выгнаная на чужыну, бо Ты верыў і верыш, што гвалт рана ці позна сыступіць сваё месца праву, праўдзе, і што бясспрэчная й сьвятая Твая Праўда і Тваё Права — гэта БНР.

Пад гэткім дэвізам, пад гэтымі сьвятымі й агульналюдзкімі гуманнымі ідэаламі, Беларускі Народзе, Ты змагаўся зь нячуванай вытрываласьцяй і стойкасьцяй няўпынна трыццаць год.

На працягу гэтых трыццацёх год Табе, Беларускі Народзе, і Твайму палітычнаму кіраўніцтву — Ураду й Радзе БНР —давялося вытрываць шмат цяжкіх і крывавых наскокаў з боку розных акупантаў.

Сотні тысячаў найлепшых Тваіх сыноў, дачок аддалі сваё жыцьцё ў змаганьні. Мільёны перацярпелі й цярпяць цяжкія фізычныя мукі, але ніводнаму з акупантаў Беларусі не ўдалося зламаць Тваё волі, змусіць Цябе адрачыся ад таго, што Табе найвялікшым скарбам — БНР.

Каб Цябе ашукаць, розныя акупанты падсоўвалі Табе ўсялякія сурагаты, «эрзацы» й фікцыі беларускае дзяржаўнасьці, а на тваіх прадстаўнікоў — розных рэнэгатаў, здраднікаў, але Ты ўсё гэта адкідаў з усёй станоўкасьцяй і пагардай.

І так за трыццаць год шалёнага тэрору, брутальных штурмаў і ўсялякіх ашуканскіх «дыплёматычных» подступаў розных акупантаў ня здаў Ты, Беларускі Народзе, сваіх пазыцыяў, не адступіў ні на пядзю ад сваіх ідэалаў, прынцыпаў, абвешчаных 25 сакавіка.

Дармо, што па Зямельцы Тваёй гуляе азьвярэлы акупант, ідэю БНР Ты моцна беражэш у сэрцы сваім, а правадыры Тваё, якім Ты даў неабмежаныя паўнамоцтвы свае да наступных вольных выбараў, высака й моцна трымаюць штандар Твой у найкрыштальнейшай чысьціні Яго. А калі хто із гэтых правадыроў Тваіх у змаганьні падаў, штандар Твой ён перадаваў у іншыя, такія-ж пэўныя рукі. Паміраючы, Твой першы Прэзыдэнт Крачэўскі гэты штандар Твой перадаў наступніку свайму Захарку, Захарка, таксама паміраючы — Абрамчыку, цяперашняму Твайму найвышэйшаму прадстаўніку.

Варагі Тваё, Беларускі Народзе, ад гэтага ў роспачы. Яны чуюць, што сяньня БНР для іх яшчэ больш небясьпечная, як раней. Бо калі трыццаць апошніх год Ты змагаўся й вытрываў гэнае змаганьне сам адзін, калі лёзунгі,дэвізы, выпісаныя на штандары Тваім, былі вылучнай собскасьцяй Тваёй у змаганьні з собскім тыранам Тваім, дык сяньня лёзунгі гэтыя слова ў слова зьліваюцца з клічамі найвялікшых мужоў дэмакратычі сьвету, клічамі, узьнятымі, як дэвізы да змаганьня супраць калісь толькі Тваёго, а сяньня агульналюдзкага тырана.

Вось чаму сяньня кажнае слова Тваё спад сьцягу БНР, як піянэра трыццацігадовага змаганьня з усходнім барбарам, будзе выклікаць да Цябе ўсё большыя й большыя сымпатыі, усё больш й больш давер. І вось чаму варагі нашыя так намагаюцца сяньня выбіць з рук нам гэты штандар наш.

ДАРАГІЯ СЁСТРЫ, БРАТЫ!

У дзень сяньняшняга нашага Вялікага Сьвята, у знак нашага ўзаемна гарачага братняга прывітаньня — сьцісьнема мацней у руках сваіх штандар наш — БНР!

Ты, шаснаццацёхмілённы Беларускі Народзе, што скуты яшчэ сяньня ланцугамі чужацкай няволі ў сваім родным краі — будзь мудрым, але мужным і вытрывалым у вадпоры варожым наскокам акупанта на правы Тваё.

Вы, двухмілённыя мучанікі бальшавіцкіх канцлягераў і турмаў — малецеся Богу, каб дадаў Ён Вам сілы дачакацца дня вызваленьня.

Вы, статысячныя гэроі-партызаны, харобрыя воі, што перацярпелі шмат лютых зімаў у лясных завеях — вышэй уздыймайце штандар БНР, каб мэта вашага змаганьня была лягчэй зразумелай сьвету.

Ты, беларуская мілённая эміграцыя, будзь цьвярдой і годнай рэпрэзэнтанткай свайго гуманнага, але гэраічнага Народу.

Увесь Беларускі двацццацёхмілённы Народзе — перацярпеў Ты трыццаць год у мужным змаганьні, але канец Тваім мукам зьбліжаецца. Шчыльней толькі ў рады наваколі Рады і Ураду БНР — і перамога будзе за Табою!

ЖЫВЕ БЕЛАРУСКАЯ НАРОДНАЯ РЭСПУБЛІКА!
ЖЫВЕ РАДА І ЎРАД БНР!
ДАЛОЎ АКУПАНТАЎ БЕЛАРУСІ Й ІХНЫЯ АГЕНТУРНЫЯ ПРАДСТАЎНІЦТВЫ!
ЖЫВЕ БЕЛАРУСКІ НАРОД У ЗМАГАНЬНІ!
ЖЫВЕ ПРЭЗЫДЭНТ БЕЛАРУСКАЕ НАРОДНАЕ РЭСПУБЛІКІ — НАЙВЫШЭЙШЫ НОСЬБІТ СУВЭРЭННЫХ ПРАВОЎ БЕЛАРУСКАГА НАРОДУ!
ЖЫВЕ БЕЛАРУСЬ!

24 САКАВІКА 1948 ГОДУ
ГАСПОДА

ПРЭЗЫДЫЮМ РАДЫ Б. Н. Р.



*Усіх суродзічаў шчыра вітаем*
***ЗЬ ВЯЛІКІМ САКАВІКОМ!!!***



# НЕЗАЛЕЖНАСЬЦЬ

На яе сяньня прысягаецца у нас бадай кажны. Быць незалежнікам — сталася нашымі днямі блізу адназначным таму, што й быць Беларусам наагул. Прынамся, у дачыненьні да нацыянальна-сьведамых суродзічаў гэта, бясспрэчна, так. Аніўводнай грамадзе, што называе сябе беларускай, ня стрэнеце цяпер ніякіх пярэчаньняў самому прынцыпу незалежнасьці Беларусі: на акце 25 Сакавіка «стаяць», як гэта прынята казаць, усе. І гэта, наагул бяручы, нельга не разглядаць, як вельмі ўсьцешны факт, які ня можа сьветчыць аб вялікіх поступах, што зрабіў у вапошніх трыццацёх гадох працэс нацыянальнага адраджэньня й дасьпяваньня нашага народу. Бо й запраўды, як цьвердзяць ангельскія знаўцы нацыянальнага пытаньня, дасьпеласьць народу да нацыі вымяраецца ягонай здольнасьцяй да эфэктыўнага змаганьня за сваю незалежнасьць. А пэўна-ж, усьведамленьне народам патрэбы незалежнасьці, як першы мамэнт яшчэ глыбейшага ўсьведамленьня канечнасьці змагацца за яе,становіць сабою найпершую й найважнейшую передумову тае здольнасьці й эфэктыўнасьці. Пры гэткім усьведамленьні й самое гэнае змаганьне пакідае быць чыста-стыхійным, эпізадычным і спарадычным, а выростае ў трывалы і ўпорысты мэтаімклівы суцэльны працэс.

І навет той факт, на які нельга заплюшчваць вачэй, для адных сумны, для другіх трывожны, для трэйціх толькі мабілізуючы факт, што сярод людзей, якія афішуюцца беларускімі незалежнікамі сяньня, шмат ёсьць няшчырых, аж да сукрытай варожасьці няшчырых, як іх дражняць часам, «також незалежнікаў» — таксама сьветчыць аб нічым іншым, як аб перамозе ідэі незалежніцтва: гэткая бо яна папулярная ў народзе сяньня, што змушае маскавацца пад сябе і недаверкаў ды малаверных, і навет варагоў, злосьнікаў ды шкоднікаў. І хоць такое маскаваньне, пэўна-ж, найчасьцей стаецца пагрознай небясьпекай і непажаданай перашкодай на шляху паглыбленьня змаганьня за незалежнасьць — усё-ткі яно толькі сьцьвярджае факт актуальнасьці ідэі, зь якой нельга ня лічыцца навет тады, калі маюць наўвеце паралiжаваньне ейнага дзеяньня, расклад знутра апанаванай ёю грамады.

Дык застаецца адно дайсьці да няхібнага перакананьня, што так шырака разьлітая ў масе незалежніцтва вымагае толькі, з аднаго боку, спрыяльнае вонкавае сытуацыі, а з другога — паглыбленьня і ўтрываленьня, глыбейшага й мацнейшага закараненьня ў галовах і сэрцах, у думцы й волі людзей, каб кіраваць іх напорна й нязводна шляхом змаганьня за нацыянальнае вызваленьне — да поўнае перамогі, да Другога Прыйсьця Вялікага Сакавіка. Аднак, калі першае — вонкавая сытуацыя — залежыць ад нас самых у найменшай, можа навет у ніякай меры, дык затое другое — паглыбленьне і ўтрываленьне незалежніцтва — павінна станавіць першарадную задачу сяньняшняга дня і якраз у ваблiччы таго першага — у ваблiччы няхібна вычуванага сяньня ўсімі набліжэньня разьвязальнага — мо апошняга — бою за тую перамогу. Ды, зрэшты, і заўсёды шырыня бяз глыбіні крые ў сабе небясьпеку нятрываласьці, борздага выпарэньня, высыханьня ідэі. А трэба, нажаль, сьцьвердзіць, што, як і наагул глыбіня думкі — ня вельмі частая зьява ў нас сяньня (а часам, у дужках кажучы, некаторым прыкрая, іншымі навет ненавіджаная, а сяму-таму і... цяжкая, ці «цяжкастыльная»), так і глыбейшае ўсьведамленьне незалежнціцтва, поўнае, разгорнутае ўяўленьне гэтае ідэі ўпаасобку — пакідае шмат чаго да жаданьня... А такая плыткасьць незалежніцкае ідэі ў галовах некаторых толькі дае ўдзячны пункт гэным розным «також» выялаўляць ейны сэнс, выціскаць і выкручваць, рознымі абмежаньнямі, засьцярогамі й кручкамі ўсялякага тыпу абарачаць у чысты шыльд, у той славуты дышаль, што куды пакруціў, туды й вышаў, і што падсунуць яго вельмі лёгка кажнаму сярэдняму чалавечку, часта-густа ў глыбіні душы вельмі схільнаму да натуры прыказачнага «ласкавага цяляці», што дзьвюх матак сьсець, або таго моднага сучаснага «элястычнага тактыка», што двум дабрадзеям прысягаць і салютаваць — напагатове заўсёды.

Усе мы прызнаём сяньня ідэю незалежнасьці за наш ідэал. Суровая рэальнасьць, хоць і сама парадзіла зь сябе, із сваіх заканамернасьцяў, вялікі акт 25 Сакавіка трыццаць год таму — адразу-ж аднак паставіла яго вонках сябе, адсунула — хай сабе і ўзвысіла — да сфэры ідэалаў. І вось бывае часта-густа, што людзі разумеюць так: ідэал — гэта заўсёды нешта недасяжнае, тое, да чаго, праўда, трэба імкнуцца, набліжацца, але-ж усёроўна ўгібаць у рукі ніяк і ніколі нельга. У жыцьці-ж, у палітыцы трэба быць рэальнымі, лічыцца з рэальнасьцяй, а рэальнасьць-жа, добра самі кажаце, «паставіла вонках»... Дык ідэал-ідэалам, будзем прызнаваць яго, «стаяць на ім», а рэальна — ісьці лініяй найменшага супраціву (але-ж, ёсьць у нас навет задэкляраваныя тэарэтыкі й прыхільнікі гэткае лініі), падладжвацца, прытарноўвацца... Падобны ход думкі, які даводзіць да асьвячэньня вялікім ідэалам усяго чыста, аж да нацыянальнае зрады ўлучна, далёка нярэдкі сяньня і здараецца сяды-тады навет у, здавалася-б, шчырых незалежнікаў. Ён грунтуецца на філёзофска-прымітыўным, мэтафізычным абсалютным супрацьстаўленьні ідэальнага рэальнаму. Тым-жа часам, як добра сказаў адзін з глыбокіх думальнікаў, **ідэал — гэта толькі рэальнасьць заўтрашняга дня, якую трэба рыхтаваць ужо сяньня.** Усякае іншае разуменьне ідэалу, што адрывае яго ад рэальнасьці, патрэбнае й карыснае адно толькі хіба аблыжнікам, сьвятуном ці недалужнікам для прыкрыцьця свае нутраное агіднасьці або слабасьці.

Таму і ў нас трэба найперш паглыбляць разуменьне рэальнасьці сакавіковага ідэалу, ягонай заканамернасьці гістарычнай, эканамічнай і палітычнай. Ды такжа ўсьцяж трэба падчыркваць і тое, што рэальнасьць гэтага ідэалу нікалiва не паслабляе ягонае абсалютнасьці для нас. Бо ў гэтым мамэнце якраз знаходзяць сабе другую зручную пролазку выялаўляльнікі вялікае ідэі. Найперш тут спрытна падсоўваецца цьверджаньне пра пераходнасьць самое стадыі незалежнасьці, што, быццам-бы, становіць наагул тэндэнцыю сучаснасьці, працятай ідэямі фэдэралізму, і навет як-бы мае грунт і ў самым акце 25 Сакавіка, у ягоных словах пра тое, што «самі народы Беларусі, у васобе свайго ўстаноўчага сойму, пастановяць аб будучых дзяржаўных зьвязях Беларусі». На гэтай аснове, як ведама зь гісторыі нашага нацыянальнага руху, ужо за месяц па сакавіковым акце, пры разломе адзінай датуль партыі Беларускае Сацыялістычнае Грамады, паўстала была, праўда, нядоўгатрывалая, «Партыя Беларускіх Сацыялістых-Фэдэралістых»... З другога боку, бальшавікі, гаворачы пра незалежнасьць, не хаваюць навет ніколі таго, што разумеецца яна ў іх, як чыста-пераходны мамэнт у вагульным працэсе пад лёзунгам «разьмежаваньня для цясьнейшага згуртаваньня»... А як гэта выглядае ў іх на практыцы — добра ведама кажнаму... І таксама добранька трэба ўсьведаміць, што незалежнасьць для нас можа быць толькі абсалютам, усякія гаворкі аб абмежаваньні якога могуць паўстаць адно тады, калі ён зрэалізуецца, і то ўва ўсёй сваёй паўніні, дый далей — калі такія гаворкі будуць у тым часе актуальнымі й калі абмяркоўваныя ў іх фэдэрацыйныя канцэпцыі будуць даваць поўныя гарантыі нэўтралізацыі ўсякага вялікадзяржаўніцтва. Дый наагул, гаварыць аб недасягнутай незалежнасьці, думаючы тут-жа пра фэдэралізм — гэта найчасьцей таксама толькі тактыка спрытных «також», калі, зноў-жа, ня выяў аблыжніцтва ці недалужніцтва.

Аднак, незалежнасьць мусіць быць для нас абсалютам ня толькі ў часе, але і ў прасторы. Незалежнасьць толькі ад аднаго пры залежнасьці ад некага другога, хай сабе й незалежнасьць ад усіх, за выняткам толькі аднаго — гэта ніякая незалежнасьць, адно хітры казуістычны фокус. Першыя выдумалі яго ў дачыненьні да нас гітлераўцы, што дазвалялі (і то неахвоча) гаварыць аб незалежнасьці Беларусі толькі ад Расеі (аб Польшчы ўжо й гуку ня было, бо яе й зусім мелася ня быць, але незалежнасьць ад самога Райху навет удум не дапушчалася). У гэткім дусе (і, пэўна-ж, не бязь іхнага, мякка кажучы, гаспадаровага ведама) вынес сваю пастанову, што мелася пацьвердзіць і навет «удасканаліць» самы акт 25 Сакавіка, славуты «Другі Ўсебеларускі Кангрэс» 1944 г... Цяпер гэты-ж фокус спрабуюць выкарыстоўваць і іншыя, акцэнтуючы незалежнасьць толькі ад **бальшавіцкае** Расеі, бо, быццам, аб ёй толькі й хадзіла 25 сакавіка 1918 г. у ваблiччы Берасьцейскага міру... Казуістычная сафістыка гэтых прыхваткаў нагэтульки аднак відавочная, каб трэба было больш спыняцца на ёй. Зусім ясна: як незалежнасьць — дык ад усіх, а калі ўжо маўкліва прызнаецца навет магчымасьць залежнасьці хоць ад аднаго некага — «не» само сабой адпадае й ня прыстане аніяк, якім-бы клеем — гітлераўскім ці нейкім «нэа-салідарыстаўскім» — яго тут не прышпаклёўвалі.

Нарэшце, застаецца яшчэ адзін мамэнт, найважнейшы для поўнага й глыбокага разуменьня ідэі незалежніцтва. Вельмі шмат хто, не задумваючыся, а хто-нехто й зусім сьведама, разумее акт 25 сакавіка, як акт праклямаваньня толькі гаспадарстваўска-палітычнае самастойнасьці. Тым-жа часам, гэткая самастойнасьць становіць сабою толькі адну вонкавую форму незалежнасьці, пад якой канечна павінна быць, як аснова, і незалежнасьць нутраная, духова-культурная нацыянальная самабытнасьць. І на гістарычным паседжаньні 24-25 сакавіка 1918 г., як паказваюць навочныя сьветкі, канечнасьць незалежнасьці Беларусі найперш аргумэнтавалася духова-культурнай самабытнасьцяй нашага народу. А бальшыня сучасных тэарэтыкаў нацыянальнага пытаньня адмаўляецца навет прызнаваць годнасьць нацыі тым народным калектывам, якія ня маюць асноваў, ці хоць-бы волі да духова-культурнае самабытнасьці. Па гістарычныя-ж прыклады тут нам і хадзіць далёка ня трэба. У нашай собскай гісторыі страту гаспадарстваўска-палітычнае самастойнасьці папярэджвала і ў вызначальнай меры спрычыніла страта духова-культурнай самабытнасьці тагачаснымі вярхамі народу, ягонымі рэпрэзэнтантамі й носьбітамі сувэрэннасьці. Пры ведамай спробе аднаўленьня нашае гаспадарстваўска-палітычнае самастойнасьці Напалеонам у 1812 г. няўвага да духова-культурнага мамэнту таксама адразу-ж разьвязала рух да ліквідацыі гэтае самастойнасьці з боку дэнацыяналізаваных духова элемэнтаў. І заўсёды ды ўсюды поўная й запраўдная незалежнасьць можа быць забясьпечаная толькі непарыўнасьцяй вонкавага — гаспадарстваўска-палітычнага й нутранога — духова-культурнага мамэнту. Бо адзін першы мамэнт бяз другога заўсёды спрычыняе небясьпечную нятрываласьць усяе незалежнасьці, тымчасам як другі мамэнт бязь першага не забясьпечаны патрэбнымі абставінамі й перадумовамі для поўнага й бесьперашкоднага свайго разьвіцьця й разгортаньня. Адно, што пры гэтым усім другі мамэнт — духова-кульаурная самабытнасьць — заўсёды больш у нашых руках, чымся першы, гаспадарстваўска-палітычны. Дык і сяньня мы не павінны ані паслабляць увагі да яго, памятаючы, што ён тут — вызначальная аснова. Усякія гаворкі аб тым, што цяпер мы ня дома, што нам, прыкладам, больш патрэбныя мовы ангельская, францускaя й інш., як нашая родная, што быццам наагул няма ніякае нацыянальнае культуры, адно агульна-людзкая — выяўляюць толькі сьведамыя ці нясьведамыя тэндэнцыі да асыміляцыі й дэнацыяналізацыі, сьмяротна сьціраваныя ў самае сэрца ня толькі незалежніцтва, але й самога нацыянальнага быцьця наагул. Дык ня толькі захаваньне, але й далейшае разьвіцьцё нацыянальнае духова-культурнае самабытнасьці, роднае мовы, мастацтва, навукі, моцная воля да гэтага — гэта тое, чаго найбольш вымагае сяньня справа незалежніцтва і навет сама простая рэч нацыянальнага самазахаваньня. Магчымасьці для гэтага, якія-б яны й ня былі часам звужаныя абставінамі, заўсёды ёсьць і будуць у нашых руках, і ніякі дэмабілізацыйны настрой, ніякая лёгкадумнасьць, ніякае сьведамае нядбальства ці нэгацыя тут наагул ніколі ня могуць быць дараваныя.

Поўная нацыянальная незалежнасьць — наш сьвяты ідэал сяньняшняга дня — будзе, станецца жывой рэальнасьцяй Вялікага Заўтра. Зарукаю гэтаму — нашая тысячагодная гісторыя, сыгналамі — ейныя апошнія трыццаць год, гарантам — Найвышэйшая Справядлівасьць. Нашая-ж сьведамасьць і пачуцьцё, воля і дзея — хай заўсёды будуць з намі, хай бязупынна й няўхільна кіруюць нас у шчасьлівую прыстань Вялікае Будучыні Вольнае Бацькаўшчыны, — **Бацькаўшчыны Незалежнай.**

# БРАТОМ-СЛАВАКОМ

14 сакавіка братні нам Славацкі Народ адзначаў угодкі свае маладое — бо яшчэ толькі дзевяціґадовае — незалежнасьці. 14 сакавіка 1939 г. славацкі парлямэнт абвесьціў Славаччыну зноў самастойнай пасьля больш як тысячагоднага перапынку (ад 906 г.). Беспасярэдня перад гэтым Славаччына цешылася толькі ўсьцяж абмежванай і абразанай аўтаноміяй у складзе Чэхаславацкае рэспублікі, устаноўленай па першай сусьветнай вайне і задуманай як супольнае гаспадарства Чэхаў і Славакоў. Супольнасьць гэтая аднак у практыцы адразу-ж бадай выpадзілася ў супрэмацыю Чэхаў і прыгнечаньне зь іхнага боку Славакоў, што й парадзіла сярод апошніх моцны рух супраціву зь незалежніцкай сьціраванасьцяй.

Нядоўга аднак цешыліся Славакі сваім гаспадарствам, усяго шэсьць год. Надыйшло зноў «разьбітае карыта» аднаўленай Чэхаславаччыны, зьбіванае цяпер ужо спрытнейшымі й жарстчэйшымі — бо бальшавіцкімі рукамі. Што замешваецца і ўжо замясілася ў гэным карыце сяньня — добра ведама й сьвежа ведама ўсім...

Але Славакі ня трацяць свае незалежніцкае перакананасьці. Іхны часапіс «Славацкія Весткі», што нелегальна выдаецца ў Брацiславе, у сваім № 3 за 1948 г., між іншага, піша: «Варагі славацкае свабоды падчыркваюць тое, што малы славацкі народ ня можа жыць самастойна. Шэсьць год даюць лепшы прыклад таго, што й малыя народы могуць мець свае самастойныя гаспадарствы, хоць Славаччына сама зь сябе й не становіць сама малое гаспадарства, як сваёй плошчаю, так і велічынёй жыхарства. Славаччына мае 3,600.000 жыхароў, а ейная плошча становіць 49 тыс. кв. км. Гэта значыць, што яна мае больш жыхароў, чымся Альбанія, Нарвэгія, Ірляндыя, Фінляндыя, Эстонія, Летува, Лацьвія й Данія, ня кажучы ўжо пра найменшыя гаспадарствы, як Ліхтэнштэйн, Люксэмбург, Манака, Сан-Марына. Паўдзённа- і сярэдня-амэрыканскія гаспадарствы — Балівія, Уругвай, Парагвай, Эквадор, Вэнэцуэля, Порта-Рыка, Куба, Гаіты, Сан-Дамінга, Гватэмаля, Сан-Сальвадор, Гандурас, Нікарагуа, Коста-Рыка, Панама й г. д. колькасьцяй свайго жыхарства ўсе сустулаюць Славаччыне. Гэтыя прыклады ясна кажуць, што Славаччына не становіць адно з найменшых гаспадарстваў. Калі пры гэтым успомнім, што славацкі народ — адзін із сама старых і культурных народаў сярэдняе Эўропы, мы павінны дайсьці да высnаву, што ўсякія даводжаньні малое колькаснасьці — толькі злая палітычная дэмагогія тых, хто ня хоча бачыць свабоднымі іншыя народы й хто найлепш хацеў-бы бачыць славацкі народ вымiраючы ў нявольніцтве. Аднак, Славакі ўжо даўно зразумелі гэты мамэнт і таму, нароўні зь вялікімі народамі, дамагаюцца свае гаспадарстваўскае незалежнасьці».

Гэтулькі — чатырохміліённыя Славакі. А што-ж казаць нам, дваццацічатырохміліённым?

Славаччына наагул шмат у чым вельмі павучальны нам прыклад. І асабліва можа таму, што апошнім часам пачынаюць сям-там курсаваць праекты стварэньня ў будучыні нечага a-la Чэхаславаччына на славянскім усходзе — з нас і адных нашых суседзяў, пры якіх, бясспрэчна, нашае палажэньне было-б зусім аналёгічным да палажэньня Славакоў пры Чэхах. Трэба таму й сяньня быць асьцярожнымі ўсюды там, дзе пахне прыказкай: «цаца, цаца — ды ў кішэню»...

Братом-жа Славаком сяньня мы можам толькі сымпатызаваць у іхнай, дый нашай усіхнай бядзе, з пашанаю цэнячы іхную незалежніцкую перакананасьць і сьціраванасьць ды моцна сьціскаючы руку ў вадзіным фроньце народаў забраных. Верым: **незалежная Славаччына зноў будзе, як і будзе незалежнай нашая Бацькаўшчына.** Верым і зычым, моцна, шчыра жадаем!

**УСІХ ЧЫТАЧОЎ-КАТАЛІКОЎ ВІТАЕМ**

**ІЗЬ СЬВЯТЫМ ВЯЛІКАДНЕМ**

# НІ РАЗЬБІЦЬ -  - НІ СПЫНІЦЬ

## «ДВУПАГОНЯ»

Наш нацыянальны гэрб — «Пагоня» — гістарычна ведамы ў двух адменьніках: у вадным, найбольш пашыраным, коньнік імчыцца ў кірунку геаграфічнага захаду (г. зн. налева), у другім, менш знаным, ужываным галоўна на манэтах часоў Вялікага Князя Вітаўта, коньнік кіруецца на геаграфічны ўсход (г. зн. направа — г. зв. «Вітаўтава Пагоня»). Абодвы гэтыя адменьнікі сымбалізуюць, кажны ўпаасобку, то адну, то другую абаронную й наступальную сьціраванасьць нашае нацыянальнае палітыкі ў мінуўшчыне (супраць Захаду — нямецкіх крыжакоў, а пасьля й Польшчы, і супраць Усходу — Маскоўшчыны).

**Таму,** што нашая незалежніцкая ідэя прызнае за аднолькава важныя адпорнасьць як у кірунку агрэсыўнага да нас бліжэйшага Захаду (Польшчы), гэтак і ў кірунку такога-ж Усходу (Маскоўшчыны), была выказаная думка аб патрэбе злучэньня абедзьвюх «Пагоняў» у двуконную «Пагоню», або «Двупагоню. Думку гэтую, як прапанову, упяршыню ў нас быў сфармуляваў Г. Альгердзіч у артыкуле «Нашыя нацыянальныя эмблемы» (гл. газэту «Раніца», № 49 за 1944 г.). Вось ягоныя аргумэнты: «На бязумоўнае выкарыстаньне ў будучыні заслугоўвае геаграфічная (дакладней, геапалітычная) сымболіка нашага гэрбу, назначаная ўжо ў «Вітаўтавай Пагоні». На гэтай дарозе, выходзячы зь сяньняшняе й адзінаправільнае на будучыню незалежніцкай ідэі двубаковае адпорнасьці беларускага руху як на Захад (супраць Польшчы), гэтак і на Ўсход (супраць Маскоўшчыны), зусім пасьлядоўным і лёгічным было-б зьяўленьне, так сказаўшы, «Двупагоні» — з двух коньнікаў, сьціраваных у супрацьлежныя бакі, на захад і на ўсход. Такая «Двупагоня» станавіла-б сабою спалучэньне гістарычна ведамых звычайнае й «Вітаўтавае» Пагоні. У пэўнай меры яна абапіралася-б і на ведамы ды папулярны верш М. Багдановіча «Пагоня», у якім усюды маем множны лік — «ваякі», «коні». Што-ж да мастацкае апраўданасьці, дык для двуконнай Пагоні яна, бясспрэчна, куды большая, чымся для традыцыйных у гэральдыцы «двугаловых арлоў» (былыя расейскі й аўстрыйскі гэрбы»).

**Ані «Двупагоня»** наагул, ані падаваны тут адменьнік яе не прапануецца намі ў якасьці нейкай адзінаабавязваючай формы нацыянальнага гэрбу. Гэта тымчасам толькі проста праект да ўвагі грамадзтва. Наагул, трэба адзначыць, што дасюль у нашай гісторыі, ані ў часох старое дзяржаўнасьці (Вялікага Княства Літоўскага), ані ў пары новае гаспадарстваўшчыны (БНР) аніводзін з адменьнікаў «Пагоні» нідзе афіцыйна ня быў прызнаны за адзіны законны, кананічны гаспадарстваўскі гэрб. Ніякага ўрадавага дэкрэту аб гэтым, або зафіксаваньня ў гаспадарстваўскай канстытуцыі, як гэта звычайна робіцца ў кажным гаспадарсьцьве, у нас дагэтуль ніколі яшчэ ня было. Дык аж да часу такога дэкрэтаваньня ці зафіксаваньня ўсе адменьнікі «Пагоні», у тым ліку й «Двупагоня», маюць у нас аднолькавыя правы грамадзянства.

## НІ ПЕРАВЫСІЦЬ, НІ ПЕРАСЯГНУЦЬ

Вялікі Акт Абвешчаньня Незалежнасьці БНР 25. III. 1918 г. становіць сабою найвялікшы зваротны мамэнт у гісторыі нашага нацыянальнага руху. Вялізманым гістарычным рубяжом ён разьмяжоўвае гэты рух на дзьве эпохі — данезалежніцкую, й незалежніцкую.

Акт 25 сакавіка 1918 г. беспасярэдня зьвяршае сабою тую пару актывізацыі нашага нацыянальнага руху, якая пачалася адразу пасьля рэвалюцыі 1917 г., ёю й разьвязаная. Пара гэтая абыймае сабою роўна год часу: ад 25-га сакавіка 1917 г. — першага зьезду нацыянальных дзеячоў — да 25-га сакавіка 1918 г. — гістарычнага паседжаньня Рады БНР. Гэты, сказацьбы, «міжсакавіковы» год разгортае ўздым надзвычайнага напружаньня руху, ягонага росту ўшыркі і ўглыбкі. Масавыя зьезды — сакавіковы, ліпенскі, Першы Ўсебеларускі Кангрэс, уканстытуяваньне нацыянальных органаў — ад сьціплага менскага Беларускага Нацыянальнага Камітэту, праз Цэнтральную Раду, Вялікую Беларускую Раду, — да Рады Ўсебеларускага Кангрэсу — Рады БНР і ейнага выканальнага органу — ураду Народнага Сэкратарыяту, пераняцьцё гэтымі органамі фактычнае ўлады й нацыянальнае рэпрэзэнтацыі — вось гадовы шлях, які і ўкараноўваецца Вялікім Актам Абвешчаньня Гаспадарстваўскае Незалежнасьці 25 сакавіка 1918 г.

Узвышша Вялікага Сакавіковага Акту, выростаючы над усім папярэднім развоем, уздыймаецца неперасяжна й над развоем далейшым, аж да сяньня. Усе спробы «перакрыць» ці «ўдасканальніць» гэты Вялікі Акт дасюль да нічога не давялі, бо й не маглі давесьці. Гэта датычыць найперш да бальшавіцкае спробы, як казалася, «крыць карту БНР другою картаю на адну літару большае БССР» — акту абвешчаньня «незалежнасьці» Беларускае Савецкае Сацыялістычнае Рэспублікі 1-га студзеня 1919 г., дакананага, бясспрэчна, пад беспасярэднім уплывам і «ў піку», дзеля таго «перакрыцьця» — спараліжаваньня Сакавіковага Акту. Вынікі гэтае спробы даволі ўсім ведамыя, каб спэцыяльна над імі тут спыняцца.

Аднак, гэтае-ж датычыць і да спробы пацьвердзіць і «ўдасканаліць» Вялікі Акт пастановамі г. зв. «Другога Кангрэсу» 1944 г. Гэтая спроба выглядае зусім жалюгоднаю, бо пацьвярджае толькі разарваньне сувязі з Расеяй, ані словам не ўспамінаючы пра самы асноўны прынцып гаспадарстваўскае незалежнасьці (пастанова «Кангрэсу», пункт 1: «Вызнаць правільнай і йзноў падцьвердзіць гістарычную пастанову Рады Беларускай Народнай Рэспублікі, якая, маючы паўнамоцтвы Першага Ўсебеларускага Кангрэсу 1917 г., на сходзе сваім 25 сакавіка 1918 году ўрачыстай Трэйцяй Устаўнай Граматай да Беларускага Народу абвесьціла аб канчальным разрыве дзяржаўных сувязяў з бальшавіцкай Масквой і расейскай дзяржавай у ўсякіх яе формах». І ўсё...) Куртатасьць гэткага пацьверджаньня зусім зразумелая: запраўдныя рэжысэры й апякуны «Другога Кангрэсу», навет прагараючы на Беларусі, ніяк не маглі дапусьціць і гаворкі аб незалежнасьці тэрыторыі, аканаванай на ролю аднае зь інтэгральных частак усяго вялікага іхнага «лебэнсраўму»...

Неперавышаным, неперасяжным манумэнтам, які не патрабуе аніякіх «пацьверджаньняў», «ўдасканальненьняу» ці «дапаўненьняў» — высіцца Вялікі Сакавіковы Акт. І не здарма ён і да сяньня, і надалей — адзіная пляцформа, адзіны трамплін для ўсяго нацыянальнага руху. Ува ўсім гэтым — ягонае несьмяротнае значаньне. Як «старадаўнай крывіцкай Пагоні ні разьбіць, ні спыніць, ні стрымаць», так і ні перавысіць, ні перасягнуць Вялікага Сакавіка.

**АЛЕСЬ САЛАВЕЙ**

## КОНАДЗЕНЬ

*In hoc signo vinces!* *)

**Над зямлёю зьбіраюцца хмары —**
**грымна ймкне навальніца.**
**Праз кілімы палёў, праз амшары**
**хуткі коньнік імчыцца.**

**Вось раскоцістым громам гуркоча**
**над прастэрам жытнёвым.**
**Паланеюць адвагаю вочы**
**пад шаломам сталёвым.**

**Разам з воем, у панцыр закутым, —**
**моц і сіла ліхая.**
**На ягоным шчыце востракутым**
**крыж Ярылаў мігае.**

**Серабрыстая збруя, астрогі**
**сьвігавіцамі зьзяюць.**
**Меч у воя — і гойстры, і срогі,**
**хмары ўзад адпаўзаюць.**

**Рвіся, коньнік, наперад ірвіся!**
**Над бацькоўскім парогам**
**Твая слава ўздымаецца ў высі**
**з крыжам, дадзеным Богам.**

**І з абвіслым крылом пад зьнямогай**
**рыне ўніз навальніца.**
**Праз кілімы палёў зь перамогай**
**хуткі коньнік імчыцца.**

---

*) Пад гэтым знакам пераможаш.

# на конадні - напярэдадні другога прыйсьця вялікага сакавіка - - пад сьцяг пагоні!

**В. ВЕРАСЕНЬ**

## *ЯК У КАЗЦЫ...*

У ваднэй старой усходняй казцы апавядаецца пра тое, як адзін мусульманскі мална вельмі ўдала заладжваў усе спрэчныя справы сваіх вернікаў.

Прыходзіць аднойчы да гэтага малны адзін такі незаможны мусульманін Асад і кажа:

— Ты сам добра ведаеш, што сакля мая маленькая, сям'і ў мяне аж дзесяцёра душаў, жыць мне цяжка й цесна, можа-б ты як памог мне?

— А што ты маеш, апрача жонкі й дзяцей? — пытае мална.

— Я маю яшчэ карову, казу й курэй, — адказвае Асад.

— Дык унясі ў хату курэй, — загадвае мална.

Загад сьвятара — Асаду закон, і ён дакладна выконвае яго — бярэць курэй у сваю саклю. Але ад гэтага ані не палягчэла, а зусім наадварот...

Ізноў ідзець ён да малны, ізноў жаліцца яму, што дыхаць няма чым.

— Прывядзі ў хату казу, — кажа мална.

Ідзець бедны Асад і робіць тое, што сказана яму, але ад гэтага яшчэ цясьней зрабілася ў маленькай ягонай саклі.

Ледзь жывы, прыходзіць Асад да малны прасіць новае рады.

— І карову вядзі ў хату, — грозна загадвае мална.

Зрабіў Асад і гэта... Але назаўтрае, ужо бадай бязь сілаў, зьявіўся ён да магутнага малны і пачаў сьлёзна маліць ратунку.

Паглядзеў мална на змарнелага Асада й зразумеў, што чалавек ужо на скраі. Тады ён і кажа Асаду.

— Добра. Я разумею тваю бяду. Я табе памагу. Рынясі з хаты курэй.

Усьцешыўся Асад і якмага барджэй пабег да саклі, адкуль, як стой, былі выкінутыя куры.

Ды назаўтрае Асад ізноў прыйшоў да малны й кажа:

— Курэй я вынес із саклі, але яшчэ цяжка мне жыць у гэткай цясноце. Памажы мне, мална.

— Вывядзі з хаты казу, — раіць яму той.

З радасьцяй у сэрцы паймчаў дадому Асад, каб выканаць гэты загад малны.

Ды назаўтрае зноў Асад у малны.

— Я вынес із хаты курэй, вывеў казу, але каб ты, о магутны мална, яшчэ дазволіў мне вывесьці карову, дык я быў-бы найшчасьлівейшы чалавек у цэлым нашым ауле.

Пэўна, і на гэта яму дазволіў мална, пасьля чаго бедны Асад на прамілы Бог хваліў свайго сьвятара і ня мог нацешыцца зь ягонае мудрасьці.

Пачытаўшы гэтую казку, пачынае разумець чалавек, чаму й на нашай бацькаўшчыне ўсё робіцца, быццам паводля гэткага мудрага малны. Можа гэта таму, што кіруе там той чалавек, які ўзрос на ўсходзе, сярод мусульманаў, і мог шмат чаго пераняць ад іхных падобных мудрасьцяў. І праўда; жыцьцё ў нашым краі ідзець як пapісанаму, толькі з тэю маленькаю розьніцаю, што ў народу забіраюць найдаражэйшае й роднае і даюць яму тое, ад чаго ён адхрышчваецца, як ад нечысьці.

— Навошта вам, Беларусы, ваш Смаленск, Бранск і Вяліж, вам і Воршы досыць.

І сталіся Смаленск, Бранск і Вяліж расейскімі.

— Навошта вам, Беларусы, Більня, Сьвяньцяны, Араны — вам і Смаргоняў досыць.

І сталася нашая старадаўная сталіца Вільня — Вільнюсам...

— Навошта вам, Беларусы, ваш Беласток, Бельск, Аўгустоў — вам і Ваўкавыску досыць.

І стаўся Беласток Бялым Стокем...

— Навошта вам, Беларусы, багатыя хутары й адрубы, сытыя коні, малочныя каровы, кормныя кабаны, сады з антонаўкамі й бэрамі — вам і калгаснае рэпы досыць...

І зьнішчана было ўсё дашчэнту. Маемасьць зрабаваная, а людзі павыганяныя ў Сібір ды Калыму.

— Навошта вам, Беларусы, прыгожыя сёлы з цэрквамі, што на сонцы золатам мяняюцца, навошта вам сьвяты вашыя народныя ізь сьпевамі й скокамі, навошта вам вопратка вашая — вам і «армячишко» падыйдзе.

І абярнуліся прыгожыя сёлы у пустэльныя калгасы з падвязанымі на вяроўках коньмі, што на сваіх нагах не астояцца. І сталіся цэрквы сьвірнамі й стайнямі, і пайшоў лён на хвабрыкі, і пачаў Беларус, наводля тульскага хвабрычнага, хадзіць у латаных нагавіцах і ў гумовых апорках.

— Навошта вам, Беларусы, мова вашая родная, школы, газэты, тэатры — вам і «великого могучего» аж занадта.

І прадражнілі Менск «Мінскам на раке Свіслач» (гэтак і пішацца пав[illegible]човага бальшавіцкага правапісу) і пачалі па ўсёй Беларусі расьці «русские десятилетки», «русские драматические театры», і пайшлі друкавацца газэты «Советская Белоруссия», «Рабочий» і г. д. і г. д. — парасейску.

— Навошта вам, Беларусы, рэспубліка вашая? Вам БСЭСЭРЭ будзе.

І сталася Беларусь «Белоруссией», і пачалі кіраваць яе не Беларусы, што ў сібірах гінуць, а Панамарэнкі ды Ігнацьцевы, Гусаравы ды Цанавы.

І гэтак аж да нашых дзён, як у казцы.

А Беларусь церпіць. Чакае адно на час, каб, як волат, выпрастацца й разгарнуцца, ды каб на ўвесь сьвет загуў кліч:

**— Жыве Беларусь із сваёй мовай, з заможнымі хутарамі, з хвойнымі лясамі, із слуцкімі бэрамі, з вышыванымі сарочкамі ,падпяразанымі слуцкімі паясамі, зь песьнямі й скокамі народнымі, із сваім гаспадарствам — жыве тая, якую сотнямі гадоў хавалі й тапталі, прадавалі й нішчылі!**

**ЖЫВЕ БЕЛАРУСЬ!**

**УЛАДЗІМЕР ДУБОЎКА**

# ПЛАЧ НАВАЛЬНІЦЫ

**МЭЛЁДЫІ *)**

I.

У сьнежных далінах, далінах бяскрайных
гарыць і палае пад ветрам паходня.
I носяцца іскры над струджаным краем,
няўсьцяж і Заходняй і Ўсходняй.

I песьня — ня песьня, а плач навальніцы,
якая ўзьвіецца для помсты праўдзівай
I сьлёзы — ня сьлёзы — надзея ільсьніцца:
ў змаганьні народзіцца дзіва.

На дзікім каменьні, на дзікім і жорсткім
шыпшына ня зьвяла, пасьцеле цьвяцістасьць,
I з гэнай цьвяцістасьці, з гэных пялёсткаў
паўстане спрадвечная існасьць.

Даруем усё, што ў стагодзьдзях крышыла,
той воцат даруем, што вусны паліў нам.
А подласьць вам вашу начэпім на шыю,
каб з вамі пайшла і у гліну.

У сьнежных далінах, далінах бяскрайных
гарыць і палае пад ветрам паходня.
I носяцца іскры над струджаным краем,
наўсьцяж і Заходняй і Ўсходняй.

II.

На блакіце — ды шэрыя плямы,
кузлаватаю воўнаю смутак.
Недзе родзіцца рэзаны лямант
і нялюдзкая родзіцца мука.

Галасеце лілёва, цымбалы,
разьлятайцеся з гукамі, думкі.
Груганьнё тое села-пала,
і дакуль яно будзе крумкаць?

У блакіт кармазынавы пошчак
разам з крыўдай на лёс апантаны.
Дзень мінулы — сьцюдзёны нябожчык —
сяньня, заўтра — ніколі ня ўстане.

Расплывуцца, расьцягнуцца плямы,
ў іх утопіцца смутак, загіне.
Стане песьняю дзікі той лямант,
што завіўся ля любай краіны.

III.

А лясы шалясьцяць, шалясьцяць,
а вазёры гамоняць сярдзіта.
Зварухваецца аір ля трысьця
і замоўкне, у млявасьць спавіты.

Як з кадзіла, туман навакол,
каляровасьцяй вытканы кволай.
Дзень на смутак сябе накалоў
і галосяць, галосяць віёлы.

Плачуць дрэвы празрыстай расой,
а раса завіваецца ў дэсань.
Сіні, сіні такі парасон
панад возерам і панад лесам.

На палетках пясочкі-пяскі,
можа жыта, а можа там бульба...
Край мой, край, над табой лёс накпіў,
а чужынцы ў нядолю абулі.

Ці багацьця бракуе табе,
ці упартасьці сьціплае мала?
Тая ўпартасьць і камень праб'е,
калі кінула цэлым навала.

Пранясуцца ў барвовасьці дзей
да Дняпра аж спад Нарачча хвалі.
Вось цяперака цяжка глядзець,
як радзіму маю ўкрыжавалі.

А лясы шалясьцяць, шалясьцяць,
а вазёры гамоняць сярдзіта.
Адкаснецца уціск нябыцьця,
край нап'ецца яшчэ акавіты.

IV.

На пясок на жоўты, на пясок стаптаны
я укленчу-стану, галаву схілю.
Ты пашлі, зямелька, для душы бальзамы,
ты прыймі, зямелька, крыўду ўсю маю.

Нявыказная
катуе
скруха...
Пурпуровыя
рогаты
духу...
Пасьцілаецца, сьцелецца лісьціна,
а бяроза ня можа стагнаць.
Прападай, ліха,
хадзі над барамі,
бо тугі вялікай
кайстра ня прыймае.
А лісьцінка з лісьцінкой у вянок,
а на песьню-надзею ня зробяць замок.
Прападай ліха,
хадзі над барамі,
бо тугі вялікай
кайстра ня прыймае.
Раскладаюць-паляць ля вазёр касьцёр...
Паляцеце, песьні, да вазёр, вазёр...
Нявыказная
катуе
скруха...
Пурпуровыя
рогаты
духу...
На пясок на жоўты, на пясок стаптаны
я укленчу-стану, галаву схілю.
Ты пашлі, зямелька, для душы бальзамы,
ты прыймі, зямелька, крыўду ўсю маю.

V.

I над лесам такжа, і над пушчай такжа:
скрозь
дым.

Можа ён ня ўстане, можа ён абляжа...
Гэта вораг ходзіць у сутане
і жалобай край ускрыў.

Я ня веру ў літасьць,
я ня веру словам.
Нат гавораць пліты...
А маўчыць жывое...

Ходзіць, ходзіць спрытна гэты новы рыцар:
што
трэ?
А ці доўга будзем моўчкі ўсё карыцца?
Смутак точыць сэрца, точыць грудзі...
Кленчым сьціпла на жарсьцьве.
Колькі абяцаньняў —
колькі подлых дзеяў!
Што, калі паўстанем, —
дзе тады вас дзенем?
I над лесам стане, і над пушчай стане:
скрозь
дым
Гэта будзе помста, гэта будзе Раньне.
Закасуем межы, згіне Ростань.
Кон адзін: ці вы, ці мы.

VI.

Колькі іх!
Гаманілі з гаем.
Гаманілі з полем.
Гаманілі з жытам каласістым.
Колькі іх!
Працавалі рана,
Працавалі позна,
Працавалі, сілу слалі лістам.
I аруды парожныя
сіратою
заўсёды,
нявыходнаю госьцяй
у хлебе
мякіна.
I чужынцам зьбіралі-

складалі
слодыч —
колькі іх! —
як і ўся краіна.
Помста йдзе!
Галасіла поле.
Галасілі стрэхі.
Галасіў чарнобыль на памежку.
Помста йдзе.
Напілося болем,
напілося рэха,
напіліся крыўдай тыя сьцежкі.
I сьціскалася ў вусны
нявыказнае
гора,
і тапілася ў вочах
часіна
адплаты.
Каб за тое за ўсё,
што сягоньня
і ўчора
вогнішчамі
абшары палатаць.
Ці затым?
Павязалі рукі,
павязалі ногі,
павязалі цела, — дух зьвязаць ня можна...
Ці затым?
Завязьлі на мукі,
завязьлі на рогат,
завязьлі на зьдзек чыноў вяльможных.
Гаманілі хвалі —
расхадзіўся
Нёман,
Гаманілі хмары —
неба
спахмурнела.
Гэта мы залічым,
гэта —
мы успомнім,
калі словы стануць
агнявай дзеяй.
А цяпер —
пакрышэце косьці,
пакрышэце гэтым,
пакрышэце новым невядомым.
Трэ цярпець —
вецер помсту носіць,
вецер будзіць нетры,
вецер ад усходу будзіць міліёны.
I за ўсё — за мукі
і за воцат
горкі,
і за ўкрыжаваньне гэтых
і
наступных, —
на Ушэсьці скажа
дух нязломны
горда
— мы пазналі радасьць
— вы пазнайце смутак!

Колькі іх...
Гаманілі з гаем,
гаманілі з полем.
Гаманілі з жытам каласістым.
Колькі іх...
Працавалі рана.
Працавалі позна.
Працавалі, сілу слалі лістам.
Іх усіх іменьне
сьвяткаваць
прымусім
мы рабоў вяльможных:
злосьць-жа іх —
ад страху.
За братоў маіх
змагарнай
Беларусі
стаўлю ў песьні помнік
на Усход і Захад.

VII.

Неба сіняе, сіняе вельмі,
але сіньшая ў вочах туга.
Не сатканы такі йшчэ вэлюм,
каб тугу ад сьвету схаваць.

Пурпуровасьць каліны, пунсовасьць,
кармазынавасьць дзікіх малін...
Радасьць знаюць сычы і совы,
людзі радасьць каму аддалі?

Ў ночы цёмнай, у засьціле цьмянай
зьнічкі гінуць на хвалях вазёр.
Зіхатлівыя, сумныя плямы
пракладаюць сьцежкі ад зор.

Спяваюцца хмарамі зоры:
сьцежкі ёсьць — не натрапіць нiяк.
Мне казаў мой таварыш учора,
што рассыпала восень мак.

Топчаць вельмі малое зерне,
каму толькі ахвота і час.
Вось назад гэта зерне ня зьберась:
гэтага — не прычакаць.

Ды малое яно — аж надта,
пад вялікі абсац ня йдзе.
Пры вясковай хаце бахматай
узрасьце і ў радасьці і ў бядзе.

Пурпуровасьць каліны, пунсовасьць,
кармазынавасьць дзікіх малін.
Радасьць знаюць сычы і совы,
людзі радасьць каму аддалі?

Пазьлятаюць пялёсткі з шыпшыны —
ў дзіды ўпартасьць кладзе яна.
Ах вы, сьцежкі роднай краіны,
пасьля восені — будзе вясна!

VIII.

Непакоем я сяньня ускрыты,
кажуць — сумныя песьні мае...
...Новыя словы, новыя рытмы
поўнай жменяй жыцьцё дае...

Сам казаў, дык няўжо забыўся?
Чаму кленчым тузе да ног?
Я пабачыў надхмарныя высі,
я пабачыў марское дно.

I знайшоў гэты смутак з фэрмато,
пакахаў, калі хочаце чуць.
Мо й загіну каняй заклятай —
краю роднаму доўг заплачу.

Песьняры прыйдуць новыя скора
і адкінуць абоймы тугі.
Ушануюць мажорныя акорды
тых, што ў мінорах ляглі.

Скажуць гэныя новыя песьняй:
— смутак моцнае сэрца размыў.
На парозе Вялікай Прадвесьні
паніхіды складаў для зімы.

Ой, фэрмато, шырай і вышай,
ой, акорды, акорды — ў прастор!
Ужо дзень на дарогу выйшаў,
свае рукі над намі прасьцёр.

Я вітаю яго, я вітаю,
заклікаю — хутчэй, хутчэй...
. . . . . . . . . . . .
Ці праклятая, ці сьвятая
мяне раніла прадоньнем вачэй...

18. I. 1926.

*) Напісана ўзімку 1926 г., калі ўсе маладыя беларускія нацыяналістыя ў БССР жылі яшчэ надзеяй на выбух паўстаньня ў Заходняй Беларусі (у сувязі з рухам Сялянска-Работніцкае Грамады), якое перакінецца ў Беларусь Усходнюю й прывядзець да задзіночаньня й запраўднага ўнезалежненьня Бацькаўшчыны як ад Захаду, так і ад Усходу. Надрукаваць твор цалкам у БССР паэту ня ўдалося. Толькі ў 1928 г. пашчасьціла «працягнуць» яго, як казалася тады, разам зь іншымі вершамі ў зборніку «Наля» ў Маскве, у марненькім выдавецтве «Народаў СССР», што ледзь ліпела дзесь «на задворках» і таму тады мала прыцягвала да сябе ўвагі з боку розных «органаў». I там, зразумела, некаторыя мясьціны ўсё-ж давялося зьмякчыць і завуаляваць для цэнзуры, хоць і куды слабейшай, як у Менску. У друкаваным тут тэксьце некаторыя з тых мясьцінаў аднаўляюцца з памяці адным сябрам паэты, у якога даўжэйшы час перахоўваліся ягоныя архівы. — Рэд.

